Выходзіць з 20 снежня 1945 года

# газета НАСТАЎНІЦКАЯ

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 28 (5359)
Аўторак,
5 сакавіка
2002 года

## Настаўнік не толькі рэтранслятар ведаў

**_На мінулым тыдні адбылося чарговае пасяджэнне Савета БДПУ імя Максіма Танка. Наім ішла размова пра сістэму практычнай падрыхтоўкі будучых настаўнікаў ва ўмовах універсітэцкай педагагічнай адукацыі._**

Яго пачатак быў, можна сказаць, урачыстым дзействам - своеасаблівым пралогам. Рэктар універсітэта акадэмік Леанід Ціханаў прадаставіў слова сакратару савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў, адказнай супрацоўніцы Міністэрства адукацыі Ніне Пташнік. Яна агучыла імёны і прозвішчы студэнтаў універсітэта - пераможцаў чарговага тура Рэспубліканскага конкурсу "Беларусь у XXI стагоддзі".

Ніна Уладзіміраўна запрасіла рэктара асісціраваць у пачэснай місіі - прадметным уганараванні юных талентаў.

Хто ж атрымаў дыпломы конкурсу і адпаведнае матэрыяльнае ўзнагароджанне? Цудоўная пяцёрка студэнтак - Ала Дубіцкая, Надзея Кашляк, Жэня Крукава, Рыма Чарапко, Вікторыя Якаўлева.

Як зазначыў загадчык кафедры айчыннай і сусветнай гісторыі, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя, конкурсныя работы студэнтак вызначаюцца творчым падыходам, грунтоўнай дасведчанасцю ў прадмеце выбранай тэмы (грамадазнаўчы ўхіл).

Зразумела, былі адзначаны і навуковыя кіраўнікі студэнтаў - выкладчыкі універсітэта Ганна Базылева, Святлана Альшэўская, Генадзь Жылінскі, Валянціна Зінчанка, Надзея Паўлава, Святлана Цернevая. Ды і Аляксандр Аляксандравіч, які непасрэдна адказвае ў навучальнай установе за арганізацыю конкурсу, быў справядліва і заслужана ўганараваны.

Адным словам, адмысловы эмацыянальны зарад не мог не надаць пасяджэнню дзелавога характару.

Валерый Талкачоў, прарэктар па вучэбнай рабоце і міжнародных сувязях, засяродзіў увагу прысутных на тым, што практычная падрыхтоўка з'яўляецца неад'емнай часткай вучэбна-выхаваўчага працэсу, галоўнейшым кампанентам прафесійнай падрыхтоўкі выкладчыкаў школы.

Творча аб'яднаць сучасныя тэарэтычныя веды ў галіне педагогікі, псіхалогіі, спецыяльных методык, атрыманыя студэнтамі падчас аўдыторных заняткаў, з практычнымі навыкамі і падыходамі да арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу - гэта зарука паспяховай падрыхтоўкі будучых спецыялістаў.

Тым больш гэта важна, што будзе садзейнічаць пашырэнню і паглыбленню навукова-даследчыцкай дзейнасці студэнтаў з улікам пераходу на універсітэцкі ўзровень падрыхтоўкі.

У прапанаваным увазе Валерый Іванавіч зазначыў, што ў сучасных умовах універсітэцкай адукацыі сістэма практычнай падрыхтоўкі будучага настаўніка павінна ўключаць у сябе не толькі элементы традыцыйных практычных заняткаў ва ўстановах адукацыі, але і фарміраваць кампаненты творчай, пошукава-прыкладной дзейнасці настаўніка, выпрацоўваць уменні і навыкі дзеянняў нават у складанай абстаноўцы, выкарыстоўваць веды ў непрадказальных абставінах. З рэтранслятара ведаў настаўнік павінен ператварыцца ў арганізатара вучэбнай дзейнасці школьнікаў, у памочніка і добрага дарадцу, які рэалізуе творчы падыход, здольны прымаць у кожным канкрэтным выпадку нестандартныя рашэнні.

Валерый Талкачоў прааналізаваў матэрыялы практычнай падрыхтоўкі будучых педагогаў, атрыманых спецыяльна арганізаванай камісіяй падчас праверкі работы факультэтаў у гэтым напрамку.

У арганізаваным указе Савета дакладзе Валерый Іванавіч засяродзіў увагу прысутных на шэрагу задач, якія калектыў універсітэта абавязаны вырашыць.

Гэта, у сваю чаргу, выклікала патрэбу ў многіх дэканаў, загадчыкаў кафедраў, выкладчыкаў выказацца па сутнасці закранутых пытанняў.

Канструктыўнасцю прапаноў, аналітычным падыходам да практыкі падрыхтоўкі будучых настаўнікаў ва ўмовах шматузроўневай педагагічнай адукацыі вызначаліся выступленні дэкана факультэта беларускай філалогіі і культуры Аляксандра Лугоўскага, прафесара кафедры педагогікі Мікалая Міцкевіча, рэктара Мінскага гарадскога інстытута павышэння кваліфікацыі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі Наталлі Крыловай, прафесара кафедры прыкладной матэматыкі і інфарматыкі Ірыны Новік, педагога-практыка, намесніка дырэктара сярэдняй школы № 138 сталіцы Наталлі Стэцкай, загадчыка кафедры сурдапедагогікі Тамары Грыгор'евай і іншых.

Па прапанове рэктара універсітэта акадэміка Леаніда Ціханава было вырашана дапоўніць праект пастановы згодна з выказанымі заўвагамі і пажаданнямі.

**Уладзімір НОВІК.**

Весткі

## Ініцыятар экскурсіі ў сталіцу - дэпутат

**_Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Іван Семяненя пастаянна апякуецца станам адукацыі і асветы на Любаншчыне._**

Нядаўна Іван Георгіевіч непасрэдна арганізаваў паездку ў сталіцу адораных, таленавітых вучняў раёна.

Школьнікі з Любаншчыны мелі сустрэчы з дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў, атрымалі ад іх разнастайную інфармацыю аб рабоце парламентарыяў краіны.

Дзеці былі запрошаны на экскурсію на прадпрыемства "Дарыда", якое ўзначальвае калега Івана Георгіевіча па дэпутацкаму корпусу ў Палаце прадстаўнікоў Уладзімір Дзяléндзік, наведалі Палац Рэспублікі.

**Вольга МЯДЗВЕДСКАЯ,**
**вучаніца сярэдняй школы № 1 Любані.**



Усё большы размах набірае гайдаўскі рух на Беларусі, асноўнай задачай якога з'яўляецца выхаванне гарманічна развітай асобы дзяўчынкі-падлетка. На першым месцы - заняткі спортам, турызм. Падлеткі ўдзельнічаюць у міжнародных маладзёжных культурных акцыях, разнастайных праектах.

НА ЗДЫМКУ: малады педагог, лідэр гайдаў Марына Яфрэмава трэці год працуе настаўнікам пачатковых класаў у мінскай школе №141.

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**

Конкурсы

## "Руплійцы роднага слова"

**_Мерапрыемства задумвалася не толькі як конкурс, але і як урачыстае ўшанаванне настаўнікаў, выхавальнікаў, кіраўнікоў гурткоў, адным словам, усіх тых, хто беражэ і шануе родную мову, папулярызуе і прапагандуе спадчыну беларускага народа, выхоўвае юнае пакаленне ў духу нацыянальнай самасвядомасці і патрыятызму._**

На першым этапе ўстановы адукацыі вылучылі сваіх прадстаўнікоў на раённы конкурс. Сярод 15 удзельнікаў пераважалі настаўнікі беларускай мовы і літаратуры, але былі і настаўнікі гісторыі, пачатковых класаў, кіраўнікі гурткоў. Усе "руплiўцы" накіравалі ў аргкамітэт матэрыялы аб сваёй дзейнасці (альбомы, буклеты, фотаздымкі, распрацоўкі ўрокаў).

Напярэдадні выніковай канферэнцыі журы разгледзела прадстаўленыя матэрыялы, ацаніла праведзеную работу па навучанні і выхаванні школьнікаў у плане далучэння іх да гісторыі і культуры свайго народа.

Кожная са школ падрыхтавала непаўторны і ў нечым адметны матэрыял. Так, Істаўская базавая школа, прадстаўляючы лепшую руплівіцу роднага слова, настаўніцу беларускай мовы і літаратуры Алу Іванаўну Чабан, засяродзіла ўвагу на дзейнасці гуртка "Спадчына", які існуе ўжо 10 гадоў, і на мерапрыемствах па захаванні народных традыцый, якія праводзяцца ў школе.

Настаўніца Дварнасельскай сярэдняй школы Алена Анатольеўна Пугаўка прадставіла шматпланавы матэрыял сваёй дзейнасці: паўрочная пазакласная работа. Яго склалі распрацоўкі ўрокаў, матэрыялы народных святаў, аўдыёзапісы фальклорных экспедыцый, відэазапіс нестандартнага ўрока, абагульнены вопыт краязнаўчай работы.

Міёрская сярэдняя школа № 2 накіравала на конкурс настаўніцу Валянціну Дзмітрыеўну Баршчун, яе напрацоўкі ў патрыятычным і краязнаўчым кірунках. Настаўніца ў пазакласнай рабоце аддае перавагу экскурсіям. Пад яе кіраўніцтвам вучні праводзяць вандроўкі па знакамітых беларускіх мясцінах. Аб гэтым змяшчаліся матэрыялы ў раённай газеце. Дарэчы, у школе створана суполка таварыства беларускай мовы, на рахунку якой шмат цікавых спраў.

Але найбольш уразіў матэрыял настаўніка гісторыі Міёрскай сярэдняй школы № 3 Вітольда Антонавіча Ермалёнка. Больш за 20 гадоў гэты чалавек узначальвае краязнаўчы гурток "Арганаўты мінулага", мае больш за сто публікацый у друку. У паўсядзённым жыцці Вітольд Антонавіч карыстаецца толькі беларускай мовай.

Выніковая канферэнцыя конкурсу на лепшага руплiўца роднага слова адбылася ў раённым Доме культуры і стала сапраўдным святам беларускасці.

Кожны ўдзельнік характарызаваўся кіраўніцтвам школы, калегамі, вучнямі, сябрамі. Для прысутных адкрыўся той факт, што ўсе руплiўцы роднага слова - не толькі шчырыя, сумленныя, адказныя настаўнікі, але і таленавітыя творцы. Многія з іх самі пішуць вершы, нядрэнна спяваюць, валодаюць музычнымі інструментамі, што было з поспехам прадэманстравана на сцэне.

Не засталіся ў баку ад свята і вучні. Яны прыехалі, каб падтрымаць сваіх старэйшых сяброў, выказаць ім словы падзякі. На канферэнцыі некаторых настаўнікаў характарызавалі на сцэне менавіта вучні, расказвалі пра іх працу і творчасць.

Беларускія песні, танцы, гумарыстычныя творы, вершы, фальклорныя кампазіцыі - усё гэта ўхвалілі гледачы, кожны з якіх "хварэў" за свайго настаўніка. Запомніліся выступленні калектываў Дзісенскай сярэдняй школы (настаўніца В.Ф.Кавалеўская). На аснове фальклорных матываў былі паказаны "Народны кірмаш", Сіцькоўская сярэдняя школа (настаўніца В.У.Латушка), прапанавала літаратурна-музычную кампазіцыю "Роднае слова", а Міёрская сярэдняя школа № 2 (настаўніца В.Д.Баршчун) прадэманстравала конкурс-прэзентацыю настаўніка.

Напрыканцы адбылося ўрачыстае ўшанаванне пераможцаў. Загадчык аддзела адукацыі М.М.Будо і старшыня РК прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Р.У.Старавойтава ўзнагародзілі лепшых Ганаровымі граматамі, каштоўнымі падарункамі.

За лепшае прадстаўленне руплiўцаў роднага слова калектывы школ таксама былі заахвочаны ад імя Таварыства беларускай мовы кнігамі У.Арлова "Адкуль наш род" і "10 вякоў беларускай гісторыі".

**Міхаіл РОЛІК,**
**метадыст аддзела адукацыі Міёрскага райвыканкама.**

## Назначэнні

**_Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь са згоды Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь назначыў намеснікамі Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь_**

### КАВАЛЁВУ Таццяну Мікалаеўну

Таццяна Мікалаеўна Кавалёва нарадзілася ў 1961 годзе ў в.Любуж Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці. У 1983 годзе закончыла Магілёўскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А.А.Куляшова. Працавала выхавальнікам дзіцячага садка № 84 Магілёва, асістэнтам кафедры псіхалогіі Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.А.Куляшова. З 1986 па 1991 год вучылася ў аспірантуры Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.М.Горкага.

З 1991 па 1992 год працавала старшым выкладчыкам кафедры псіхалогіі Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.А.Куляшова. З 1992 па 1995 год - загадчыкам кафедры псіхалогіі Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.А.Куляшова. З 1995 года працавала намеснікам начальніка ўпраўлення адукацыі Магілёўскага аблвыканкама. З 2 сакавіка 2002 года - намеснік Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Кандыдат псіхалагічных навук, дацэнт.

### ФАРЫНО Казіміра Сцяпанавіча

Казімір Сцяпанавіч Фарыно нарадзіўся ў 1952 годзе ў в.Баравікі Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А.М.Горкага працаваў настаўнікам фізікі ў школе-інтэрнаце № 5 Мінска. З 1978 па 1982 год працаваў метадыстам Мінскага гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў. З 1982 па 1988 год - выкладчыкам Мінскага фінансава-эканамічнага тэхнікума. З 1988 па 1991 год - працаваў дырэктарам сярэдняй школы № 6 Мінска, а з 1991 па 2002 год - дырэктарам політэхнічнай гімназіі сталіцы, з 2 сакавіка 2002 года - намеснік Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Кандыдат педагагічных навук, заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь.

Весткі

## "За Еўропу без тытуню"

**_У міжнароднай канферэнцыі Сусветнай арганізацыі аховы здароўя "За Еўропу без тытуню" прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства аховы здароўя краіны._**

Міжнародная канферэнцыя Сусветнай арганізацыі аховы здароўя (СААЗ)"За Еўропу без тытуню" на ўзроўні міністраў гэтай галіны адбылася ў сталіцы Польшчы Варшаве. Сустракаліся там прадстаўнікі дэлегацый з дзяржаў-членаў СААЗ, а таксама адпаведных інтэграцыйных міжурадавых і няўрадавых арганізацый. Нашу краіну прадстаўлялі намеснік Міністра аховы здароўя, галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Валерый Ключановіч, яго намеснік - галоўны ўрач Рэспубліканскага цэнтра здароўя Андрэй Сякач.

Гэтая канферэнцыя ацэньваецца як адно з важнейшых рэгіянальных мерапрыемстваў у рамках падрыхтоўкі і прыняцця рамачнай канвенцыі па барацьбе супраць тытуню - у маі гэтага года ў нашай краіне пройдзе міжнародная антытытунёвая кампанія-латарэя "Кінь курыць і выйграй". А сусветны дзень без тытуню будзе адзначан 31 мая пад дэвізам "Спорт і тытунь".

## Для юных гледачоў

**_Спектакль аб добрых справах піянераў пастаўлены ўпершыню за многія гады, і называецца ён "Школьны вітамін". У чырвоных гальштуках і пілотках юныя артысты будуюць дамы, дапамагаюць людзям, шануюць дабрыню._**

Прапагандуюцца ў гэтым спектаклі тыя вечныя каштоўнасці, якія нярэдка губляюцца ў мітусні нашых дзён. Спектакль так спадабаўся юным гледачам, што "Школьны вітамін" будзе ставіцца на сцэнах школ па іх заяўках не толькі ў Мінску, але і ў іншых рэгіёнах рэспублікі. Арганізавана гэтае дзейства з дапамогаю дырэктара Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі Партызанскага раёна сталіцы Валянціны Гвінт.

## Свет сям'і

**_На вуснах у жыхароў інтэрнатаў МАЗа, МТЗ, МЗАЛ (мінскіх аўтамабільнага, трактарнага заводаў, завода аўтаматычных ліній) і іншых буйных прадпрыемстваў краіны - праблема, якая ўзнімалася яшчэ вялікім рускім пісьменнікам І.С.Тургеневым._**

Пазітыўнае выйсце з сямейных праблем будуць шукаць як яны самі, так і псіхолагі, педагогі і выхавальнікі ў ток-шоу, якое называецца "Бацькі і дзеці". У рамках "Пляцоўкі "Свет сям'і" такая размова праводзіцца Цэнтрам творчасці дзяцей і моладзі Партызанскага раёна Мінска. "Пляцоўка..." ўключае ў сябе розныя аб'яднанні па інтарэсах, праводзіць дні сямейнага адпачынку, рыхтуе выхавальнікаў для заводскіх дзіцячых летнікаў па аздараўленню дзяцей.

## У Валожыне адраджаецца іешыва

**_Хутка тут плануецца пачаць адпаведныя работы па ўзнаўленню памяшкання некалі знакамітай іешывы - яўрэйскай вышэйшай рэлігійнай школы, у якой у далейшым мяркуецца размясціць цэнтр па вывучэнню іудаізму._**

І невыпадкова Валожынская іешыва ў свой час была першай навучальнай установай падобнага кшталту ва Усходняй Еўропе. Амаль два стагоддзі таму назад - у 1803 годзе - быў узведзены будынак вышэйшай рэлігійнай школы, у якой атрымалі цудоўную адукацыю вядомыя рабіны і дзеячы нацыянальнай культуры. Далёка не ў лепшым стане знаходзіцца ён цяпер.

Разам з рэстаўрацыяй Слонімскай сінагогі ўзнаўленне Валожынскай іешывы стане ўжо другім праектам па адраджэнню архітэктурных і гісторыка-культурных еўрапейскіх святынь на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Фінансавую дапамогу абяцае аказаць Сусветная іудзейская канфесія, а непасрэдная ініцыятыва зыходзіць ад Беларускага іудзейскага аб'яднання.

## "Залаты голас"

**_Нядаўна ў студэнцкім гарадку БДУ адбыўся конкурс, у якім дзевяць хлопцаў прадстаўлялі восем інтэрнатаў універсітэта. Яны дэманстравалі свае таленты ў чатырох намінацыях: "вобраз-прадстаўленне-знаёмства", у конкурсах на самае лепшае або арыгінальнае выкананне песні пад фанаграму, на выхад з цяжкага становішча - "серэнада" і "цяжкая сітуацыя" - і "прызнанне ў любові"._**

Гэтае незвычайнае спаборніцтва праходзіла весела і захапляльна, працягваючыся аж да позняга вечара. Перамогу атрымаў Ігар Багасай, студэнт факультэта радыёфізікі і электронікі - абаяльны і знаходлівы, які прадстаўляў інтэрнат № 9. Сапраўдную суперменскую ўзнагароду - бясплатнае навучанне ў аўташколе - атрымаў ён у якасці галоўнага прыза. Магчымасць павячэраць у рэстаране "Шынок у Лявона" атрымаў у якасці другога прыза Аляксандр Коўцік.

Аляксандр Мацяс выйграў прыз сімпатый гледачоў, Сцяпан Хаперскі ўганараваны званнем "Містэр Галантнасць". Прыз "Залаты голас" за лепшае выкананне сваёй песні дастаўся Яўгену Селівонцу.

## У "круглым стале" ўдзельнічаюць маладыя вучоныя

**_У Гродна адбыўся "круглы стол" прадстаўнікоў няўрадавых грамадскіх арганізацый і сродкаў масавай інфармацыі Гродзеншчыны "Адкрытасць. Інфармаванасць. Грамадская актыўнасць"._**

Праводзілася гэтае мерапрыемства ў рамках праекта "Павышэнне эфектыўнасці дзейнасці маладзёжных грамадскіх аб'яднанняў Гродзеншчыны". Грамадскае аб'яднанне "Цэнтр інфармацыйнай падтрымкі грамадскіх ініцыятыў "Трэці сектар" і Гродзенскае абласное аб'яднанне маладых вучоных прымалі ўдзел у яго рэалізацыі. Удзельнічалі ў "круглым стале" прадстаўнікі найбольш актыўных і ўплывовых няўрадавых грамадскіх арганізацый вобласці, рэдактары некаторых СМІ, спецыялісты па інфармацыйнай рабоце аблвыканкама і райвыканкама, а таксама супрацоўнікі розных фондаў і арганізацый.

## Лепшыя ў СНД

**_На працягу некалькіх дзён працаваў IX Міжнародны кніжны кірмаш у Палацы мастацтваў у Мінску. На ім была прадстаўлена прадукцыя больш двухсот айчынных і замежных выдавецтваў і кнігагандлёвых арганізацый._**

Былі там стэнды дзяржаў Балтыі, Германіі, Кітая, ЗША, Францыі і Украіны, звыш паўсотні расійскіх фірмаў. Выданні арабскіх краін прадстаўляў Арабскі інфармацыйны цэнтр, а нямецкую прадукцыю - бюро Лейпцыгскага кірмаша ў Рэспубліцы Беларусь. Гэтае мерапрыемства, якое штогод наладжваецца ў нашым горадзе, не раз называлася лепшым у СНД.

**Пётр ШУБЯНОК.**

